**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск —4.51, 21.22 16.31;
Віцебск — 4.34, 21.19, 16.45;
Магілёў — 4.41, 21.11, 16.30;
Гомель — 4.45, 21.02, 16.17;
Гродна — 5.07, 21.37, 16.30;
Брэст — 5.17, 21.28, 16.11.

**МЕСЯЦ:**
Апошняя чвэрць 24 мая.

**ІМЯНІНЫ:**
Макара, Аляксандра, Георгія, Ірыны; Філіпа.

# ЗВЯЗДА

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

26 МАЯ 1992 г. аўторак, № 104 (21882)

● цана 50 кап.

# ДОБРЫЯ ЎРАЖАННІ

**Як паведамлялася ўжо, у канцы мінулага тыдня з аднадзённым візітам у Брэсцкай вобласці пабываў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі С. Шушкевіч.**

Узаемакарысная, на думку кіраўніка парламента, атрымалася сустрэча з работнікамі праваахоўных органаў вобласці. Здзівіла С. Шушкевіча тая акалічнасць, што прадстаўнікі пракуратуры, міліцыі, абласнога ўпраўлення Камітэта дзяржбяспекі, мытні і пагранатрада, якія выступілі тут, не ўзнімалі пытання аб павышэнні зарплаты, а гаварылі аб вострых праблемах барацьбы са злачыннасцю, разам шукалі шляхі больш эфектыўнай работы. Кола ўзнятых пытанняў аказалася настолькі шырокім, што Старшыня Вярхоўнага Савета згадзіўся з неабходнасцю комплекснай дзяржаўнай праграмы па барацьбе са злачыннасцю. Перш за ўсё патрэбна заканадаўчае забеспячэнне правапарадку, без чаго нельга дабіцца станоўчых зрухаў у эканоміцы і сацыяльнай сферы. Цяпер жа сітуацыя часам даходзіць да абсурду: затрыманыя кантрабандысты і розныя парушальнікі ўхіляюцца ад адказнасці, патрабаванні пракурора ігнаруюцца, злачынцы становяцца нахабнымі.

Відавочна, што не дадуць належнага эфекту забаронныя меры ў адносінах да тых, хто перасякае граніцу. Больш карысці рэспубліцы было б ад сувымернай дзяржаўнай пошліны на вывозімыя тавары, як гэта робіцца ў большасці цывілізаваных краін. Як падкрэсліў С. Шушкевіч, Беларусь узяла напрамак да забеспячэння правоў чалавека, захавання міжнародных дагаворанасцей. І задача праваахоўных органаў— засцерагчы людзей ад зладзеяў, грабежнікаў, гвалтаўнікоў, спыніць раскраданне дзяржаўнай, грамадскай і асабістай уласнасці, кантрабанду, парушэнні граніцы. І тут закон павінен быць вышэй за ўсё.

Другая частка праграмы знаходжання С. Шушкевіча на Брэстчыне ўключала наведванне шэрагу прыгарадных гаспадарак. Складзена яна была па невялікай частцы «залатога кальца», як яго называюць у народзе. Ніхто і не ўтойваў гэтага ад Старшыні Вярхоўнага Савета. Ды і сам ён добра разумеў, што ўбачыць далёка не горшыя вытворчасці і пасёлкі. Тым больш, што раней наведваць гэтыя гаспадаркі яму не даводзілася. А цяперашні час такі непрадказальны, што многія з нядаўніх «маякоў» ужо не свецяць. І ўсё ж убачанае зрабіла ўражанне. Пасля першага наведвання цяплічнага камбіната «Бярэсце» С. Шушкевіч сказаў:

— Не ўсё ў нас так дрэнна. Ёсць нямала калектываў, якія нават у вельмі складаных умовах працягваюць нармальна працаваць, даюць прадукцыю гораду і на экспарт. Гэта яшчэ раз пацвярджае ісціну: нельга разбураць тое добрае, што было накоплена ў папярэднія гады. Іншая справа, што парламент і ўрад павінны імкнуцца стварыць умовы, каб вяскоўцы маглі нармальна працаваць.

У вёсцы Чыжэвічы Брэсцкага раёна Старшыня Вярхоўнага Савета сустрэўся з фермерам Пятром Бабко. У яго гаспадарцы 13 гектараў зямлі, якія даюць магчымасць займацца адкормам маладняку і вытворчасцю малака. Праўда, клопаты ў фермера не простыя — гаспадарка яго толькі становіцца на ногі. А адсутнасць і дарагоўля тэхнікі і рэсурсаў здольныя сарваць ажыццяўленне многіх добрых намераў. Між іншым, такая сітуацыя характэрная сёння практычна для ўсіх 173 фермерскіх гаспадарак вобласці.

Апошнім пунктам наведвання С. Шушкевічам Брэсцкага раёна стаў калгас-камбінат «Памяць Ільіча». Тут ён агледзеў жывёлагадоўчы комплекс па адкорму дзесяці тысяч галоў буйной рагатай жывёлы. Адбылося таксама знаёмства са шматлікімі калгаснымі падсобнымі вытворчасцямі, сумесным з адной з польскіх фірм прадпрыемствам «Астрамечава-Драговец», дзе мясцовыя майстрыхі шыюць прыгожае адзенне. Пабываў С. Шушкевіч і ў трох калгасных вёсках, дзве з якіх зусім нядаўна былі ў ліку неперспектыўных, а сёння могуць паспрачацца з сучаснымі пасёлкамі.

**І. КУКСА,**
**кар. БЕЛТА.**



## Беларусь—Кувейт: крокі насустрач

Раніцай 24 мая ўрадавая дэлегацыя Рэспублікі Беларусь на чале са Старшынёй Савета Міністраў В. Кебічам прыбыла ў Кувейт.

Спецыяльны самалёт ТУ-154 з надпісам «Беларусь» на борце зрабіў пасадку ў міжнародным аэрапорце Эль-Кувейта. На лётным полі была выстраена ганаровая варта. Ля трапа самалёта В. Кебіча і членаў дэлегацыі віталі Яго Высокасць наследны прынц Кувейта шэйх Саад аль-Абдала, намеснік прэм'ер-міністра, міністр замежных спраў шэйх Салем Ас-Сабах Ас-Салем, міністр фінансаў Насэр Абдала Ар-Радан, іншыя афіцыяльныя асобы.

Пасля ўрачыстай цырымоніі сустрэчы і кароткіх перагавораў у зале аэрапорта кіраўнік беларускай дэлегацыі і асобы, якія яго суправаджаюць, накіроўваюцца ў палац «Баян» — месца афіцыяльнай рэзідэнцыі вышэйшых службовых асоб Кувейта. В. Кебіча і членаў урадавай дэлегацыі прыняў эмір Кувейта Яго Высокасць шэйх Джабер аль-Ахмед. Адбыўся зацікаўлены абмен думкамі. Эмір Кувейта асабліва адзначыў важную ролю ўраўнаважанай палітыкі, якую праводзіць кіраўніцтва Беларусі на міжнароднай арэне і ўнутры Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Па просьбе вышэйшага дзяржаўнага кіраўніка Кувейта В. Кебіч падрабязна ахарактарызаваў прынцыповыя падыходы Вярхоўнага Савета і ўрада рэспублікі да праблемы ліквідацыі ядзернай зброі, ператварэння Беларусі ў бяз'ядзерную нейтральную дзяржаву.

Затым пачаліся афіцыяльныя перагаворы на ўрадавым узроўні. Прэм'ер-міністр Кувейта, міністры і члены беларускай дэлегацыі разгледзелі магчымасці супрацоўніцтва паміж дзвюма краінамі ў розных галінах. Кувейцкі бок праявіў асаблівую цікавасць да шэрагу выпускаемых у нас у рэспубліцы тавараў. Старшыня Савета Міністраў Беларусі падрабязна праінфармаваў прысутных аб выніках ташкенцкай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў, якія ўваходзяць у СНД. Немалую частку часу заняў таксама расказ прэм'ер-міністра аб выніках катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Было аднадушна адзначана, што візіт беларускай дэлегацыі ў Кувейт з'яўляецца сведчаннем самастойнай палітыкі Беларусі на Блізкім Усходзе. Бакі дамовіліся аб завяршэнні работы па падрыхтоўцы да падпісання міждзяржаўных палітычных і эканамічных пагадненняў.

Пасля абеду беларуская дэлегацыя пабывала на аб'ектах, якія падвергліся варварскаму разбурэнню ў час агрэсіі Ірака супраць Кувейта. Вуліцы, па якіх праязджаў картэж аўтамабіляў, былі ўпрыгожаны нацыянальнымі флагамі Беларусі і Кувейта.

Вечарам прэм'ер-міністр шэйх Саад аль-Абдала наладзіў святочны абед у гонар кіраўніка беларускай дэлегацыі Старшыні Савета Міністраў Беларусі В. Кебіча. На абедзе прысутнічалі міністры, губернатары правінцый Кувейта, прадстаўнікі палітычных і дзелавых колаў.

У праведзеных сустрэчах і перагаворах прынялі ўдзел міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь П. Краўчанка, старшыня Камітэта па знешнеэканамічных сувязях У. Радкевіч, старшыня праўлення Белзнешэканомбанка Г. Алейнікаў, народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Г. Казлоў, іншыя члены дэлегацыі.

**В. ДРАГАВЕЦ.**
**(БЕЛТА).**
**Эль-Кувейт (25 мая, па тэлефоне).**

## НА ШЛЯХУ ДА ЎЛАСНАЙ АРМІІ

**25 мая ў Міністэрстве абароны Беларусі адбылося прадстаўленне назначаных Саветам Міністраў рэспублікі намеснікаў міністра абароны, а таксама военачальнікаў, якія ўзначалілі віды войск, аб'яднанні і злучэнні, упраўленні і іншыя буйныя структурныя падраздзяленні.**

Першым намеснікам міністра абароны назначаны 47-гадовы доктар тэхнічных навук, інжынер-электроншчык Аляксандр Тушынскі, які працаваў раней генеральным дырэктарам Беларускага навукова - вытворчага аб'яднання вылічальнай тэхнікі. Галоўнай яго задачай з'яўляецца стварэнне структур абароннай прамысловасці нашай рэспублікі на якасна новай аснове, звязанай з пачатым фарміраваннем уласных узброеных сіл. Аляксандру Тушынскаму, першаму цывільнаму спецыялісту ў сістэме МА рэспублікі, трэба будзе забяспечыць узаемныя інтарэсы армейскіх структур і абаронных прадпрыемстваў ваенна - прамысловага комплексу Беларусі, звязаўшы іх са структурамі і прадпрыемствамі іншых дзяржаў СНД. Першаму намесніку даручаецца таксама не дапусціць адставання нашай рэспублікі ў галіне ваеннай навукі, забяспечыць апаратыўнае аснашчэнне беларускай арміі электроннымі і іншымі сучаснымі сродкамі кіравання войскамі.

Намеснікам міністра абароны назначаны генерал-лейтэнант Валерый Якушаў.

Начальнік упраўлення па пытаннях правоў грамадзян, грамадскай бяспекі і абароннай работы Савета Міністраў Беларусі Генадзь Данілаў, які прадставіў назначаных кіраўнікоў, падкрэсліў, што цяпер, калі рэспубліка самастойна вызначае ўласную ваенную палітыку, у шмат разоў узрастае адказнасць кожнага, а тым больш кіраўніка за даручаны ўчастак работы. Вельмі многае, у тым ліку і ў ваеннай справе, прыйдзецца пачынаць з нуля.

Рэфармуючы армію, ствараючы ўласныя ўзброеныя сілы, неабходна старанна прааналізаваць, дзе да войск «пryліплі» непатрэбныя структуры, якія нічога не даюць у сэнсе павышэння боегатоўнасці.

Ужо сёння настаў час вырашаць пытанні з увядзеннем новай ваеннай формы. Не сакрэт, што салдацкія кірзавыя боты, цяжкія шынелі даўно маральна ўстарэлі, але і наладзіць вытворчасць новага, зручнага адзення для воінаў — сёння немалая праблема.

Трэба будзе ствараць якасна новую тылавую гаспадарку для забеспячэння не толькі арміі, але і МУС, пагранічнікаў рэспублікі. Цяпер жа яны ў нас свае, а не ведамасныя. Аднак ні ў якім разе пры гэтым нельга разрываць дзелавыя сувязі з Міністэрствам абароны Расіі, іншых рэспублік былога СССР.

На нарадзе была таксама абнародавана пастанова Савета Міністраў аб стварэнні пры Міністэрстве абароны Беларусі інспекцыі, задачай якой з'яўляецца рашучая барацьба з несанкцыяніраваным вывазам за межы рэспублікі ўзбраення, баявой тэхнікі, ваеннай маёмасці і матэрыялаў.

**Леанід ТРАЦЭЎСКІ,**
**кар. БЕЛТА.**

# КАМАНДЗІРОЎКА НА ВАЙНУ

## Дубасары: хроніка аднаго дня

**Наш карэспандэнт толькі што пабываў у зоне баёў у Прыднястроўі і падрыхтаваў адтуль серыю рэпартажаў**

Шырокая паласа Днястра добра бачная з гэтай дарогі, на якой рэдка ўбачыш машыну ці пешахода. Ля вёсак і мястэчак — узброеныя пасты з трох-чатырох гвардзейцаў у палявой форме. Часам побач з імі — БТРы. Нас амаль не спыняюць,— ледзь убачыўшы «спецназаўскую» форму двух суправаджаючых, тут жа даюць дарогу.

Вадзіцель на спідометр не пазірае — гоніць што ёсць сілы. Не толькі таму, што дарога амаль пустая. З боку Днястра ў любы момант могуць прагучаць стрэлы.

Ля вёскі Ташлык, дзе дарога ўшчыльную набліжаецца да ракі, нашы ахоўнікі, нібы згаварыўшыся, знімаюць з галоў чорныя берэты з армейскімі кукардамі і шчоўкаюць затворамі аўтаматаў, якія ляжаць у іх на каленях. Берэты, што носяць «спецназаўцы» з батальёна «Днестр» — мішэнь, па якой верагоднасць стрэлаў з таго боку асабліва вялікая.

Размова ў машыне міжволі змаўкае. Адзін з суправаджаючых, Эдуард,— паказвае на нічым не прыметную абочыну на высокім беразе:

— Пару тыдняў назад тут ва ўпор расстралялі «хуткую дапамогу». Медсястру забілі. Жанчыну і шафёра цяжка паранілі.

Успамінаю: сюжэт, дзе была паказана прашытая кулямі машына і расказвалася пра гэты выпадак, бачыў па тэлебачанні.

І Эдуард, і другі «спецназавец» — Сяргей — просяць не называць у газеце прозвішчы. (Такія ж просьбы потым не раз буду чуць у Дубасарах). Тлумачэнне простае — ва ўсіх іх сем'і, за якія ёсць падстава непакоіцца. У гэтай дзіўнай вайне няма лініі фронту, якая б аддзяляла праціўнікаў. І гінуць у ёй не толькі тыя, хто сядзіць у акопе з аўтаматам у руках.

Над Дубасарскім гарсаветам — чырвона-зялёны флаг з чорнымі жалобнымі стужкамі. Стужкі з флагштока не знікаюць ужо доўгі час. Пахаванні ў горадзе — праз дзень, а то і кожны дзень. Вось і цяпер у гарадскім моргу — 14 трупаў.

У кабінеце старшыні гарсавета Уладзіслава Фінагіна бачу зводку страт за мінулыя суткі — 12 загінуўшых, 8 раненых, 1 палонны. Як загінулі? Па версіі гэтага боку, гвардзейцы на БТРах з белым флагам паехалі падбіраць параненых. БТРы падбілі і падпалілі «апонаўцы» — паліцэйскія з сіл асобага прызначэння Малдовы. Зрэшты, на тым баку Днястра гэтым падзеям, ведаю, дадзена зусім процілеглая трактоўка. Хто мае рацыю, хто ўводзіць у зман — разабрацца амаль немагчыма. У вайны сваё ўяўленне аб сутнасці праўды. Для мяне ж ісціна толькі ў тым, што заўтра і на гэтым, і на тым баку Днястра -- у Ціраспалі і Кішынёве — жалобныя працэсіі будуць праводзіць у апошні шлях 20—30-гадовых салдат,— чыіхсьці сыноў, мужоў, бацькоў.

Мы прыехалі ў Дубасары на наступны дзень пасля таго, як стала вядома, што на пазіцыях прыднястроўскіх апалчэнцаў з'явіліся танкі і бронетранспарцёры раскватараванай у Ціраспалі 14-й арміі. Ранішні радыёвыпуск апошніх паведамленняў з Кішынёва нагадваў пачатак вайны: «19 мая 1992 года ў 18 гадзін 14-я армія Расійскай Федэрацыі, папіраючы нормы міжнароднага права, ігнаруючы трагічныя вынікі сваіх дзеянняў, акупіравала ўсходнія раёны Рэспублікі Малдова, пачаўшы супраць нашай незалежнай, суверэннай дзяржавы — члена ААН адкрытую ваенную агрэсію...»

Разгорнутых парадкаў 14-й арміі на шляху ад Ціраспаля да Дубасар, як і ў саміх Дубасарах, я не ўбачыў. Як і салдат гэтай арміі на пазіцыях прыднястроўцаў. Але танкі і бронетранспарцёры ў руках апалчэнцаў, прыналежнасць якіх да 14-й арміі не выклікае сумненняў,—не выдумка. Як яны трапілі сюды?

— Жонкі, маці забітых урываліся ў часць, станавіліся перад салдатамі на калені, са слязамі на вачах прасілі: «Дапамажыце, хлопчыкі! Нам няма чым абараняцца». І яны не маглі нам не ўступіць,— так тлумачыла мне гэта адна з актывістак жаночага руху Прыднястроўя, якую я сустрэў на пазіцыях у Дубасарах.

Афіцыйны Кішынёў версію захопу тэхнікі апалчэнцамі і актывісткамі жаночага руху назваў «чарговай дэзінфармацыяй», а саму акцыю — спланаванай ваеннай агрэсіяй. Хто мае рацыю? Наўрад ці можна гаварыць аб акупацыі 14-й арміяй Прыднястроўя, але і тое, што армія ў сілах была адстаяць тэхніку — сумненню не падлягае. Танкі і БТРы не пакінулі б сцен ваеннага гарадка, калі б на гэта скрозь пальцы не паглядзелі ваенныя.

Я разам са здымачнай групай тэлеканала «Астанкіна» пабываў там, дзе днём раней ішлі жорсткія перастрэлкі.

...Адзін з ускраінных кварталаў Дубасар. Вымершыя адна- і двухпавярховыя дамы з выбітымі шыбамі, са слядамі асколкаў і куль на сценах. Ля танка сабраліся апалчэнцы — розных узростаў і нацыянальнасцей людзі ў палявой вайсковай форме. Здзівіла, што сярод іх нямала малдаван і нават румын. Калі верыць аднаму з камандзіраў узвода батальёна «Днестр», малдаван сярод дубасарскіх гвардзейцаў — да 40 працэнтаў.

— Я не мог не ўзяць у рукі аўтамат, бо не хачу, каб сюды прыйшлі румыны. Не хачу, каб на мой горад, на мой дом сыпаліся міны і ракеты,— казаў мне сярэдняга ўзросту чарнабароды малдаванін, снаражаючы магазін буйнакаліберната кулямёта.

На тым баку,— такая ж стракатая карціна з нацыянальным саставам. Нямала рускамоўных. Там таксама не хочуць мін і ракет— у іх свая праўда. Водападзел у гэтым супрацьстаянні,— у адрозненне ад войн, што грымяць у Закаўказзі,— прайшоў не па нацыянальнай прыкмеце. Па якой? Пра гэта — у пазнейшых, аналітычных публікацыях.

...Танк стаіць на скрыжаванні дзвюх вымершых вуліц, недалёка ад плаціны ГЭС. Пазіцыі малдаўскіх паліцэйскіх — не за Днястром, як нам здавалася раней, а на гэтым жа баку, у некалькіх сотнях метраў.

— Танк ужо быў у справе? — цікаўлюся ў апалчэнцаў.

— Учора працавалі,— дзелавіта і будзённа адказвае каржакаваты наводчык.— Стралялі за тое, што яны «бэтээр» наш спалілі.

Назаўтра я даведаюся на правым беразе, што снарад, які разарваўся ў цэнтры сяла Малавата, параніў шасцярых жыхароў, што рыхтаваліся да эвакуацыі.

Пакуль я гутару з гвардзейцамі, калегі з «Астанкіна» працуюць з тэлекамерай, шукаюць красамоўныя карцінкі ваеннага побыту для вячэрняга выпуску навін. У пошуку ракурса тэхнік Сяргей Раброў ступіў некалькі крокаў у бок завулка, што вядзе да супрацьлеглых пазіцый.

— Куды! Міна! — ад рэзкага воклічу гвардзейца хлопец аж прысеў. Потым, даведаўшыся, што міна хаваецца пад купінкай, на якую ён ледзь не наступіў,— моўчкі выцер з ілба халодны пот.

Цікавімся, ці можна падысці да плаціны Дубасарскай ГЭС,— напярэдадні прайшла інфармацыя, што пасля артабстрэлу там пашкоджаны трансфарматар і ў Днестр вылілася восем кубаметраў масла.

— Падысці-та можна,— задумліва адказвае гвардзеец. А пасля кароткай паўзы дабаўляе: «Калі адтуль не «шчоўкнуць».

Падыход да плаціны, ля якой запраста можна трапіць пад абстрэл, вырашаем перанесці на пазнейшы час. Пакуль жа нас вязуць туды, дзе ўчора клаліся міны з таго боку.

...Ад дома Кацярыны Кір'як засталася гара друзу і бітай цэглы. З адзінай уцалелай сцяны на нас сурова і строга паглядае з прышпіленага да шпалераў партрэта У. Высоцкі. Гаспадыня расказвае, выціраючы слёзы:

— Учора ўвечары гэта было. Мы з мужам дахаты вярнуліся,— у суседа ў склепе пераседжваць надакучыла, ды і спакойна, здаецца, зрабілася, ціха. Зайшлі ў прыбудоўку,— там вокнаў менш, ды і сцены таўсцейшыя. Раптам — выбух. Я выйшла, а дома няма.

Што мне рабіць цяпер, дзе жыць? Мы яго ўсё жыццё будавалі.

Дубасары ўжо каторы дзень у застылым змярцвенні. Не працуюць прадпрыемствы і школы. Людзі адседжваюцца ў склепах. У дзень, калі мы прыехалі сюды, у горадзе прынята рашэнне аб эвакуацыі жанчын і дзяцей. Па вуліцах міма нашай машыны пацягнуліся ў бок эвакапункта няшчасныя, прыдушаныя горам людзі з няхітрым хатнім скарбам.

**Валянцін ЖДАНКО.**
г. Дубасары.
Прыднястроўе.

**(Працяг будзе).**

## РАДЫЁ ФАКТ

Наладзіць з развітымі краінамі супрацоўніцтва ў галіне навейшых тэхналогій — такую задачу лічыць прыярытэтнай для Беларусі намеснік Старшыні ўрада Іван Кенік. Ён узначальваў дэлегацыю рэспублікі на Лісабонскай канферэнцыі па аказанню дапамогі незалежным дзяржавам. Іван Кенік адзначыў, што канферэнцыя пазітыўна адаб'ецца на рашэнні такой важнай праблемы, як прадастаўленне дзяржаўных гарантый з боку краін-донараў і дзяржаў — атрымальнікаў дапамогі ў адносінах да інвестыцый.

***

**Сапраўднага рынку ў рэспубліцы пакуль што няма, аднак подых яго вельмі адчувальны. Паводле прагнозаў рэспубліканскай службы занятасці, да канца гэтага года колькасць беспрацоўных дасягне 810 тысяч чалавек. Беспрацоўе закране людзей розных прафесій: рабочых, выпускнікоў школ, прафтэхвучылішчаў, тэхнікумаў, вышэйшых навучальных устаноў, ваеннаслужачых.**

***

Відавочна, ужо ў будучым годзе мы станем уладальнікамі беларускіх пашпартоў. Распрацоўка макетаў іх набліжаецца да завяршэння. Свае ўзоры беларускіх пашпартоў прадставілі ўжо спецыялізаваныя фірмы па выпуску каштоўных папер з Італіі, Францыі, Швецыі, Даніі, іншых краін. Вынікі конкурсу ўрадавая камісія падвядзе ў будучым месяцы.

***

**У Мінску адбылася ўстаноўчая канферэнцыя па стварэнню суполкі «Малдова» ў Беларусі. Выступаючы на ёй, пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Малдова ў нашай рэспубліцы Дзмітрый Мунцяну адзначыў, што ў Беларусі пражывае больш за 4 тысячы малдаван, а ў Малдове — больш за 20 тысяч беларусаў. Ён падкрэсліў, што стварэнне суполкі будзе садзейнічаць умацаванню сяброўскіх сувязей паміж Беларуссю і Малдовай, шырокаму знаёмству народаў дзвюх рэспублік з нацыянальнымі каштоўнасцямі.**

***

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь перадаў мастацкаму музею калекцыю стараабрадчых старажытнасцей. Асноўную частку калекцыі склалі прадметы, канфіскаваныя мытнікамі пры даглядзе рэчаў адной з жыхарак Гомеля, якія яна спрабавала нелегальна вывезці за мяжу. Нямала каштоўнасцей выяўлена ў падпольных калекцыянераў пры разглядзе крымінальных спраў.

***

**У Полацку пачаўся тэатральны тыдзень. Разам з тэатральнымі калектывамі Палаца вытворчага аб'яднання «Шкловалакно», узорным юнацкім тэатрам «Гармонія» і народным тэатрам «Пілігрым» у ім прымаюць удзел маскоўскі тэатр клаунады і эксцэнтрыкі «Канфуз», Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы.**

# Міністэрства абароны пачынае і...

## *Першая прэс-канферэнцыя міністра абароны РБ генерал-палкоўніка Паўла Казлоўскага*

### МАСКВА

Для Украіны і яе Узброеных Сіл адносіны з «белакаменнай» на даны момант з'яўляюцца, мяркуючы па ўсім, асноўнымі. Для Беларусі — вырашаюцца ў рабочым парадку. Кардынальна змяніўся падыход да фінансавання, тэхнічнага, кадравага і каманднага забеспячэння войск, размешчаных на тэрыторыі нашай рэспублікі. Калі раней БВА ўсім гэтым «нашпігоўвала» Масква, то цяпер прыходзіцца падстаўляць уласныя плечы пад гэтыя праблемы і больш скрупулёзна падлічваць, у якую ўсё ж капейку абыходзіцца «непераможная» і «легендарная».

«Дзелавыя» адносіны ў ваенных пытаннях з Масквой застаюцца. У першую чаргу гэта датычыць ракетных войск стратэгічнага прызначэння, якія непасрэдна падпарадкоўваюцца маршалу Шапашнікаву.

### ЦІ СТАНЕМ МЫ БЯЗ'ЯДЗЕРНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ

Міністр сцвярджае, што станем. Тактычнай ядзернай зброі на тэрыторыі рэспублікі ўжо няма. Стратэгічная павінна знікнуць праз тры-чатыры гады. А можа, крыху пазней. Цвёрдай упэўненасці ў гэтым пытанні ў міністра не было. Як, зрэшты, няма яе і ў нашага ўрада. Сітуацыя ў СНД архіскладаная. Праўда, нягледзячы ні на што, Беларусь не збіраецца адмаўляцца ад свайго жадання стаць другой Швейцарыяй. У сувязі з гэтым рэзка мяняецца дактрына таго ваеннага патэнцыялу, якім валодае Беларусь сёння. Упершыню на самым высокім афіцыяльным узроўні было заяўлена, што БВА ў першую чаргу прыстасоўвалася для наступлення, а не для абароны. Прыярытэт апошняга — галоўная задача сённяшніх Узброеных Сіл рэспублікі. Таму ўжо ў гэтым годзе скарачаюцца 62 вайсковыя часці. 22 тысячы афіцэраў пакінуць армію, а ўсяго будзе скарочана пяцьдзесят працэнтаў генеральскіх пасад.

Беларускае войска — гэта не больш 95 тысяч асабовага саставу.

Як заявіў П. Казлоўскі, плануемыя скарачэнні — беспрэцэдэнтныя за ўвесь пасляваенны перыяд.

### ЗА ХРУШЧОВЫМ МЫ НЕ ПОЙДЗЕМ

Патрэбен не хрушчоўскі падыход, калі без працы і жылля засталіся мільёны ваеннаслужачых, а дзяржаўная праграма па перавучванню звольненых афіцэраў, іх працаўладкаванню, а таксама будаўніцтву жылля. У адносінах да ваенных Беларусь выгадна адрозніваецца ад сваіх суседзяў — было падкрэслена на прэс-канферэнцыі. Свая армія не можа абцяжарваць, таму што яна з'яўляецца гарантам дзяржаўнасці і суверэнітэту. Асабліва ў сённяшняй сітуацыі. Гэта ненармальна, што Закон аб сацыяльнай абароне ваеннаслужачых прыняты толькі ў першым чытанні. На Украіне, напрыклад, поўным ходам ідзе рэфарміраванне Узброеных Сіл, у нас жа многія працэсы стрымліваюцца прававым буферам. Марудзіць тут нельга.

### БЕЛАРУСКАЯ ПРЫСЯГА

На пытанне ўласнай карэспандэнткі «Свабоды», ці будзе ён сам прысягаць на вернасць беларускаму ўраду і народу, П. Казлоўскі адказаў, што будзе. Але ў тым выпадку, калі Вярхоўны Савет прапануе яму адпаведны тэкст прысягі. Што датычыцца прысягання на вернасць Беларусі афіцэрскага і асабовага саставу, генерал-палкоўнік адказаў, што гэтым будуць займацца маладыя салдаты і афіцэры, якія яшчэ за сваё жыццё нікому не паспелі прысягнуць. Настойваць на іншым падыходзе да гэтага немалаважнага моманту суверэнітэту беларускага войска П. Казлоўскі не будзе, «пакуль Вярхоўны Савет не прыме іншага рашэння».

### БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКАГА ВОЙСКА

Сапраўды, беларускім наша войска можна назваць толькі па той прычыне, што яно размешчана на тэрыторыі рэспублікі і яшчэ таму, што сёлета яно набіраецца выключна з прызыўнікоў з Беларусі.

Сярод намеснікаў П. Казлоўскага толькі адзін беларус — генерал-палкоўнік Пётр Чаус. Гэту акалічнасць П. Казлоўскі не лічыць ненармальнай: «Штучна паскараць працэсы беларусізацыі ў арміі немэтазгодна». Не распрацаваны пакуль уласныя статут, інструкцыі і г. д. І толькі ў 1993 годзе плануецца, што ў беларускім войску будзе 50 працэнтаў афіцэраў-беларусаў. Сам Павел Паўлавіч запэўніў прысутных, што зможа загаварыць па-беларуску хоць заўтра. Праўда, са слоўнікам.

### АБ БЕЛАРУСКІМ ВАЕННЫМ ЗАМЕЖЖЫ

Яно складае недзе каля 40 тысяч, з якіх 7 жадаюць вярнуцца на сваю радзіму. 800 чалавек ужо ўдалося ўладкаваць. І гэта ў першую чаргу афіцэры і салдаты з «гарачых кропак» Садружнасці: Закаўказзя і Малдовы.

Працэс вяртання землякоў у пагонах будзе працягвацца, але не трэба забываць аб вялікіх скарачэннях унутры ваеннага кантынгенту рэспублікі і аб тых трох тысячах маладых афіцэрах, якія павінны прыйсці сёлета ў беларускае войска. Армія без маладога папаўнення — армія без будучыні. Шмат пытанняў і з жыллём для ваенных.

### КУДЫ ПОЙДУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ТАНКІ?

Асноўная частка, вядома ж, застанецца на варце нашых дзяржаўных інтарэсаў. Але скарачэння танкавага войска рэспубліцы не пазбегнуць, і частка адных з лепшых у свеце танкаў будзе проста распілоўвацца, а метал пойдзе на патрэбы народнай гаспадаркі. Баявыя машыны пяхоты плануецца скарыстоўваць на палях рэспублікі. Пакуль жа Беларусь, паводле неправераных даных, застаецца самай «танкавай» рэспублікай у СНД, за выключэннем Расіі.

### АБ АДНОСІНАХ ДА ГРАНІЦ

На прэс-канферэнцыі адным з карэспандэнтаў называўся факт, што Польшча перадыслацыравала дзве дывізіі да граніцы з Беларуссю. Павел Казлоўскі сказаў, што ён праверыць яго. З Польшчай адносіны застаюцца сяброўскімі. Размяркоўваць ваенных на сваіх знешніх граніцах плануецца раўнамерна. Беларусь вылучаецца як «спакойная» рэспубліка.

### ВАЕННАЯ МАЁМАСЦЬ

Гэта вялікія грошы. І нават КДБ ужо паведамляў, што факты разбазарвання ваеннай маёмасці за межы рэспублікі ёсць. Міністр паведаміў аб стварэнні спецыяльнай групы пры Міністэрстве абароны па кантролю над вырашэннем гэтага пытання. На ваенных аэрадромах арганізуецца дагляд усіх транспартных самалётаў, якія вылятаюць за межы рэспублікі.

**Аляксандр КОКТЫШ.**

## НАГРУЗКА, ЯКАЯ РАДУЕ

ПІНСК. У цэхах вытворчага гандлёвага аб'яднання «Палессе» італьянскія спецыялісты завяршылі мантаж новага абсталявання.

Як і ў былыя гады, зрабілі яны сваю справу дакладна і граматна. Але на гэты раз фірма «Рымольдзі» не абмежавалася выкананнем толькі прамых абавязкаў. Па яе ініцыятыве муніцыпалітэт італьянскага горада Разета разгледзеў магчымасць прыёму ў чэрвені—жніўні пяцідзесяці дзяцей работнікаў аб'яднання. І вось на днях ад улад гэтага горада прыйшло паведамленне, што пытанне вырашана станоўча. Усе затраты на аздараўленне, уключаючы пералёт ад Масквы да Разеты, бярэ на сябе італьянскі бок.

